СЕРЫЯ
«БЕЛАРУСКАЯ ТУРЭМНАЯ ЛІТАРАТУРА»
заснаваная ў 2017 годзе
распрацаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна»

**Дрозд, З.**

Бунт батанікаў : дзённік / Зміцер Дрозд. — Мінск, 2017. — 258 с. : іл. — (Серыя «Беларуская турэмная літаратура» ; вып. 1).

Беларуская турэмная сістэма практычна закрытая ад грамадскасці. Толькі той, хто асабіста прайшоў праз турэмнае зняволенне, ведае, у якіх умовах і па якіх законах жывуць асуджаныя. У сучаснай Беларусі крымінальны пераслед выкарыстоўваецца ўладамі як сродак пакарання грамадскіх актывістаў, прадстаўнікоў апазіцыйных колаў за іх дзейнасць. Палітзняволеныя ў Беларусі, паводле савецкіх традыцыяў, у турмах пераследуюцца адмыслова. Важна захаваць і данесці да беларускага грамадства сведчанні ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Беларуская сучасная гісторыя працягаецца і за турэмнымі мурамі.

Дзённік Змітра Дразда «Бунт батанікаў» — першая дакументальная кніга выдавецкай серыі «Беларуская турэмная літаратура».

Яе аўтар з’яўляецца адным з палітычных зняволеных, якія трапілі за краты пасля акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, якая адбылася 19 снежня 2010 года. Дзённік веўся на працягу амаль сямі месяцаў: з першых дзён затрымання 19.12.2010 і да самага вызвалення. Мова арыгінала захаваная, іншыя тэксты Змітра Дразда, уключаныя ў кнігу, былі напісаныя пазней па-беларуску альбо перакладзеныя на беларускую мову.



Рэдактар: Алена Лапцёнак
Мастак: Віктар Корзун
Карэктар: Алена Сяргейчык

ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

**Змест**

Ад аўтара.................................................................. 7

Прадмова................................................................. 13

Бунт ботаников....................................................... 29

Послесловие.......................................................... 189

Каментары............................................................ 197

Слоўнічак.............................................................. 242

Последнее слово.................................................... 245

Письмо маме.......................................................... 253



*Зміцер Дрозд на руінах палаца Адама Хмары ў Сёмкаве, дзе працаваў ягоны прадзед. Фота Вікторыі Паўлючук*

## Ад аўтара

«Бунт батанікаў» — гэта не мастацкі твор, калі пад мастацкасцю разумець выдумку, фантазію аўтара. Гэта дакументальная кніга, кніга-дзённік, які я пісаў амаль сем месяцаў, з першых дзён затрымання 19 снежня 2010 года да самага вызвалення. Апошнія радкі напісаныя за некалькі хвілін да выхаду на волю ў «адстойніку» КП-1 ПК-2 (кантрольны пункт № 1 папраўчай калоніі № 2 у горадзе Бабруйску).

«Бунт батанікаў» — гэта своеасаблівая энцыклапедыя турэмнага жыцця ў сучаснай Беларусі: па ходзе сюжэту я пастараўся суправадзіць каментарамі многія аспекты знаходжання за кратамі, тое, што стала для мяне самога адкрыццём і, магчыма, будзе цікавае чытачу. Калі ён, вядома, не быў раней судзімы, паколькі, відавочна, веды аўтара гэтай тэматыкі можна назваць вельмі павярхоўнымі — усётакі тэрмін адсідкі быў зусім невялікі.

Напісанне гэтага дзённіка было выклікана не толькі жаданнем аўтара, які не разлічвае на сваю «курыную» памяць, запомніць усё, што адбывалася, задакументаваць зусім нечаканае падарожжа, падобнае да падарожжа Міклухі-Маклая ў свет людаедаў (на жаль, гэты вобраз не мастацкая гіпербала — у калоніі побач з намі жыў рэальны людаед, а забойцы былі звычайнай з’явай), з незразумелымі і дзікімі звычаямі, табу і рытуаламі. Выклікана яно было вельмі практычнай неабходнасцю ў бессэнсоўныя і

аднастайныя дні скрасці ў вечнасці зняволення (на самай справе, у турме нават суткі цягнуцца даволі доўга) гадзіну-другую.

Назва гэтай кнігі ўзнікла раптам на адным з судовых пасяджэнняў і неаднаразова ўсплывала ў памяці, калі я бачыў побач з двухметровымі «шафамі» (спецназаўцамі, ахоўнікамі і іншымі людзьмі ў пагонах) нас — маленькіх, шчуплых, фізічна слабых, часцей былых выдатнікаў, з адной, а часам і дзвюма вышэйшымі адукацыямі, многія з іх пішуць вершы (пазней Аляксандр Фядута ўкладзе цэлую анталогію творчасці палітычных вязняў «Голас волі з-за кратаў»), шмат хто — з абавязковым атрыбутам — акулярамі. Такія тыповыя «батанікі». Мне здаецца, часта самі прадстаўнікі сілавых структур і суддзі глядзелі на нас з недаверам: і гэтыя людзі сталі арганізатарамі і ўдзельнікамі «масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці або ўзброеным супрацівам прадстаўнікам улады» (а менавіта так гучыць артыкул, па якім мы былі асуджаныя)? Не верым!

Напэўна, такое наша жыццё, што толькі рамантыкі і паэты, г. зн. людзі, якія больш за ўсё прагнуць не ўлады, а справядлівасці, змаглі падняць голас і ўдарыць хоць пару разоў па дзвярах Дома ўрада — як аднаго з сімвалаў гэтага саўгаснага ладу. Бо ўсе астатнія або прыбіліся да кармушкі, або жывуць хоць і небагата, але кіруючыся прынцыпам «абы вайны не было», заплюшчыўшы вочы на такія адцягненыя ад жыцця паняцці, як «справядлівасць» ці «праўда».

І тым вышэйшы і значнейшы ўчынак маіх паплечнікаў — і сотняў іншых грамадзян (бо на Плошчу выйшлі і дзяўчаты, і жанчыны, і пажылыя людзі), якія, нібы бяззбройны Давід, выступілі на бой супраць галіяфаў, узброеных з галавы да ног (і не толькі шчытамі і дубінкамі, але і вадамётамі, агнястрэльнай зброяй), навучаных бязлітасна душыць любы пратэст, гатовых выканаць любы загад свайго гаспадара. Ні ў каго з нас не было сумневу: калі ім загадаюць у нас страляць — яны гэта выканаюць, не

здрыгануўшыся. І хай у той дзень яны лёгка задушылі наш «бунт батанікаў», я ўпэўнены, што і тады, і ў гістарычным плане маральная перамога была і будзе за намі — тымі, хто выйшаў на бой супраць дыктатуры аднаго чалавека за аднаўленне канстытуцыйных правоў кожнага грамадзяніна Беларусі.

Неверагодную смеласць і непахіснасць прадэманстравалі шматлікія «батанікі» і на Плошчы, і на следстве, і на судах, і пасля іх, апынуўшыся ў зусім незнаёмым, чужым, бязлітасным свеце турмаў і зон. Хай пад неверагодным ціскам, запалохваннем або катаваннямі хтосьці з нас на нейкім этапе гэтага доўгага і цяжкага шляху, на думку гледача, які сядзіць ва ўтульным крэсле і патрабуе ад усіх, акрамя сябе, подзвігу, усвядоміў, што сіл больш няма, а хтосьці гераічна прайшоў шлях да канца — кожны, хто выйшаў у той дзень на Плошчу, можа лічыць сябе Героем.

«Бунт батанікаў» — гэта мае турэмныя дзённікі (у множным ліку — выключна таму, што займаюць яны тры сшыткі, хоць і апавядаюць пра адну расцягнутую ў часе падзею і з'яўляюцца адзіным цэлым), і менавіта асаблівасцямі дзённікавага жанру абумоўлены як недахопы гэтай кнігі, так і, хацелася б верыць, яе вартасці.

Да першых аднясу суб'ектыўнасць: усё-ткі дзённік — гэта погляд аднаго чалавека на тое, што адбываецца — звонку і ўсярэдзіне яго. Погляд, які калі і прэтэндуе на ісціну або праўду, то выключна на яго асабістую, унутраную, а не на ўсеагульную. Першапачаткова любы дзённік не разлічаны не толькі на публікацыю, але і на якога-небудзь чытача наогул — калі, вядома, аўтар не лічыць сябе літаратарам (а аўтар сябе такім лічыць, і, значыць, не выключае магчымасці, што калі-небудзь гэтыя дзённікі могуць убачыць свет).

Паколькі гэтыя сшыткі пісаліся ў выключных умовах — у турме, ды яшчэ большай часткай да суда, — то аўтар разумеў, што ў любы момант яны могуць трапіць у рукі непажаданага чытача — г. зн. апынуцца на стале ў следчага. Што, уласна, і адбылося, калі падчас ператру-

су ў маёй кватэры забралі першы том гэтага дзённіка, дзе сышчыкі дарэмна спадзяваліся знайсці нейкія патрэбныя ім факты. Яны так нічога і не адшукалі, і гэты дзённік не стаў рэчыўным доказам, далучаным да абвінавачвання. Акрамя таго, мне даводзілася быць асцярожным і ў выказваннях датычна людзей, з якімі разам я сядзеў, а з некаторымі з іх у мяне ўзнікалі розныя канфлікты, якія істотна ўскладнялі і без таго няпростае жыццё.

Толькі цяпер, праз шэсць гадоў, я магу адкрыта расказаць пра нейкія падзеі, якія адбыліся да 19 снежня 2010 года і пасля, і магу расчараваць чытача загадзя: тут не будзе ніякіх сенсацый аб падрыхтоўцы «штурму Дома ўрада» і да таго падобнага. У прадмове я распавяду пра тое, што было на самай справе, у чым я ўдзельнічаў, што ведаў, — і скажу шчыра, гэтая праўда вельмі б засмуціла нашых следчых — ніякага грандыёзнага сцэнарыя або змовы не было, ці са мной гэтым не падзяліліся, акрамя аднаго сакрэтнага плана, пра які распавяду ніжэй.

Да недахопаў можна аднесці і тое, што часам дзённік ператвараўся ў самы дрэнны жанр — у жанр нудны, роўна настолькі, наколькі было нуднае і аднастайнае турэмнае жыццё. Тэкст кідаўся за настроем яго аўтара — ад глыбокай дэпрэсіі і нежадання жыць да ўпэўненасці, што ўсё ўрэшце будзе добра, што і адбылося. Натуральна, дзённік не пазбег некаторых паўтораў, хаджэння па коле, бо неспакойная думка чалавека, які чакае суда і прыгавораны да даволі доўгага тэрміну (вядома, усё адносна, і тры гады — гэта не пяць і не шэсць), пастаянна блукала ў адных і тых жа нетрах. Гэта не было заўважна пры напісанні тэксту, калі разрыў паміж запісамі, бывала, складаў тыдзень, але пры чытанні ўсіх дзён запар часам кідаецца ў вочы чытачу.

Да вартасцяў жанру аднясём тое, што гэта дакумент, і пры веданні вядомага правіла «хлусіць, як відавочца» ён можа даць самае дакладнае веданне таго, што адбылося, — так, як гэта было на самай справе, у рэальнасці, але, як было сказана вышэй, — гэта погляд толькі з аднаго, аўтарскага пункту гледжання. Пры гэтым менавіта дзённік дае

найлепшую магчымасць чытачу не толькі суперажываць герою, як гэта бывае з мастацкімі творамі, але і перажыць рэальнае жыццё — бо ўсё, што апісана ў гэтай кнізе, — гэта праўда, а не літаратурная выдумка.

Каб істотна павысіць дакументальную каштоўнасць гэтай крыніцы, аўтар, з'яўляючыся гісторыкам па адукацыі, шчодра праілюстраваў тэкст фатаграфіямі і рэальнымі дакументамі. Яны даюць магчымасць прасачыць ход падзей не толькі па яго суб'ектыўным уяўленні, але і па нейкай аб'ектыўнай (неабавязкова праўдзівай) крыніцы, якой, безумоўна, з'яўляюцца дакументы аб затрыманні, вобшуку, допытах, падчас судовага паседжання і да т. п. Дзякуючы ім аўтар можа не толькі рваць майку на грудзях з крыкам: «Я нікому не здрадзіў!», але і прад'явіць дакументальныя доказы гэтага.

Тэкст, які трапіў у кнігу, практычна не рэдагаваўся, акрамя выпраўлення памылак і выключэння з публікацыі некалькіх невялікіх сказаў, якія тычацца сямейных спраў аўтара і наўрад ці былі б цікавыя чытачу. Для лепшага разумення тэксту да некаторых мясцін прыйшлося даць тлумачэнні, якія размешчаны ў каментарах у канцы кнігі, інакш бы шматлікія словы, падзеі і парадкі, якія аўтару не было неабходнасці «разжоўваць» для самога сябе, не былі б зразумелыя чытачу. Спадзяюся, што «Бунт батанікаў» стане займальным чытаннем, прынамсі я, набіраючы тэкст, з цікавасцю яшчэ раз перажыў тыя, ужо даволі далёкія, падзеі, успомніў многія дробязі і парадаваўся, што тады не толькі вырашыў весці дзённік, але і вёў яго часта, фактычна он-лайн, напрыклад проста ў зале суда.

Для разумення тэксту не лішнім будзе расшыфраваць некаторыя імёны, якія сустракаюцца ў дзённіку. Мае родныя: мама Зоя Дзмітрыеўна Дрозд, Наташа — сястра, Ілля і Лёша — пляменнікі, бабуля Марыя Канстанцінаўна Дрозд, Жэнька — мамін малодшы брат. Мая каханая Вольга Юрчанка, яе сястра Света. Мае сябры, таварышы, калегі па працы, па ініцыятыўнай групе кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Алегавіча Саннікава, даследчыкі з архіва і сайта «Усе-

расійскага генеалагічнага дрэва», гісторыкі, архівісты, проста добрыя людзі: Вітольд Ханецкі, Алена Кароўчанка, Язэп Янушкевіч, Уладзіслаў Вяроўкін-Шалюта, Сяргей Зашчук, Вольга Гайдукова, Максім Вінярскі, Каця Ерусалімская, Іра Пчолкіна, Саша Абрамчык, Аксана Вярсоцкая, Міхаіл Ермалюк, Каця Белавусава, Света Раманава, Алена Ісаева, Уладзімір Плюснін, Вольга Бабкова, Людміла Ждановіч (Дрозд), Вольга Славінская, Ірына Абярніхіна, Валянцін Калечыц, Святлана Казлоўская, Леанід Бенедзіктовіч, Алена Церашкова, Цімур Гагаладзэ, Таццяна Кім і многія іншыя.

Пераходзячы да асноўнай часткі кнігі, я не магу не падзякаваць грамадзянам, якія выйшлі 19 снежня 2010 года на плошчу Незалежнасці горада Мінска супраць несумленных і несправядлівых выбараў прэзідэнта, а таксама супраць фальсіфікацыі іх вынікаў, у чым і тады, і цяпер, праз шэсць гадоў, не было і няма сумневаў. І, вядома ж, падзякаваць прадстаўнікам праваабарончых арганізацый «Вясна», «Салідарнасць», майму адвакату Святлане Гарбаток, якія аказалі неверагодную падтрымку мне і маім родным; беларускім і замежным СМІ, што надалі так шмат увагі маёй персоне. Таксама, не магу не ўспомніць добрым словам сотні людзей па абодва бакі калючага дроту, якія ўсімі магчымымі спосабамі дапамагалі мне і маёй сям’і: пераводзілі грошы, куплялі мае кнігі, пісалі мне лісты і паштоўкі падтрымкі — усё гэта дабро я захаваў. Пералік усіх (а многіх з іх я зусім не ведаю) заняў бы не адну старонку гэтай кнігі. Зрэшты, многія з іх яшчэ абавязкова з’явяцца далей у самім дзённіку, таму што былі найважнейшай і неадрыўнай часткай таго майго жыцця. Вялікі дзякуй вам!!!

*Зміцер Дрозд*
*23.01.2017*

## Прадмова

Паколькі падзеі, апісаныя ў кнізе, пачынаюцца з моманту майго затрымання і заканчваюцца за некалькі хвілін да выхаду з калоніі № 2, як мне здаецца, будзе зусім не лішнім распавесці чытачу пра тое, што папярэднічала арышту і адбылося пасля вызвалення.

Пачаць прыйдзецца здалёку, бо аўтар даволі доўга падыходзіў да запаветных дзвярэй у Доме ўрада, каб нанесці па іх (а дакладней, па дошках, якія закрывалі тое, што ад гэтых дзвярэй засталося) некалькі ўдараў мегафонам з налепленай на яго «Пагоняй».

Як дзяліўся са мной адзін дасведчаны чалавек, мая асоба выклікала ў следчых даволі шмат пытанняў — хоць бы таму, што ні ў КДБ, ні ў МУС на мяне нічога не было. Своеасаблівым адкрыццём я стаў і для апазіцыйных СМІ — у іх была абсалютна тая ж праблема: адсутнасць інфармацыі (насамрэч, вельмі многія людзі, якія трапілі ў нашу справу, ніколі не засвяціліся «ў палітыцы»). Магчыма, таму, што даволі даўно я пачаў пратэставаць супраць існуючага саўгаснага ладу, як і тысячы беларусаў, не на плошчы, а купіўшы білет і з’ехаўшы з нашай краіны на заробкі. З 2002 года я, усвядоміўшы ўсю бесперспектыўнасць бліжэйшай (калі ўсё-такі быць аптымістам) беларускай будучыні, жыў і працаваў у Маскве. Займаўся фатаграфіяй, працаваў у мініфотала-

бараторыі «Кодак», дызайнерам, фатаграфаваў на дакументы, падарожнічаў, вывучаў Расію і пісаў вершы... На сваё шчасце, я сустрэў там выдатную дзяўчыну, з якой мы пражылі амаль сем гадоў.

Доўга маё стаўленне да палітыкі заключалася ў тым, што я ні разу не быў на выбарах ніякага ўзроўню. Мне гэта было нецікава, бо галоўным маім не проста інтарэсам, а, па сутнасці, напаўненнем жыцця была паэзія. А палітыка, як сказаў хтосьці з вялікіх, — справа, пазбаўленая прыгажосці, выходзіць, і паэзіі. Тым больш, яна была пазбаўленая ўсялякай прывабнасці ў выкананні чалавека, які прыйшоў да ўлады і ператварыў нашу краіну, што валодае нядрэннымі перспектывамі эканамічнага і дэмакратычнага развіцця, у савецкі запаведнік. Ён прынёс з сабой у наша жыццё не толькі напаўненне, якое мне, як патомнаму антысаветчыку, не магло спадабацца — гэтую вечную тугу па СССР, вярнуўшы ўжо аджылыя свае сцяг, герб, гімн і ўсе іншыя атрыбуты «саўка», — але і ўсё тое, што не магло мне спадабацца як паэту: крайнюю прыземленасць, няздольнасць да творчага мыслення, хамства, ілжывасць, дэмагогію, стаўленне да чалавека як да непаўнавартаснага стварэння, якое жыве «чаркай і скваркай», мае патрэбу ў пастаянным кіраўніцтве, кантролі і не мае патрэбы ў свабодзе.

Таму неўзабаве пасля яго прыходу да ўлады, яго «рэферэндумаў» і «выбараў» я стаў задумвацца аб ад’ездзе. Якраз у тыя гады я так глыбока пагрузіўся ў гісторыю, генеалогію, архівы, што з часам гэта стала маёй прафесіяй. Гэта шмат у чым спрыяла зараджэнню і росту маёй нацыянальнай самасвядомасці як рускамоўнага беларуса, усе продкі якога стагоддзямі жылі ў межах Мінскай губерні, а таксама цікавасці да мінулага нашай краіны. Што ў рэшце рэшт увасобілася ў паступленне на гістарычны факультэт БДУ. Праўда, заканчваць яго мне давялося, прыязджаючы на сесіі з Масквы.

На чужыне маёй штодзённай патрэбай стала пачынаць дзень з «Хартыі-97», і да выбараў 2006 года я падышоў ужо з выразным разуменнем, што нельга заставацца ўбаку ад жыцця нашай Радзімы. Тады я прыехаў на «выбары» прэзідэнта, выйшаў на Плошчу... Дзе ўсе мы пастаялі з надзеяй на магчымасць пераменаў, а потым разышліся. Тады я напісаў артыкул «Дзень нацыянальнай ганьбы». Чым усё тады скончылася — добра ўсім вядома.

Вярнуўся «ў палітыку» я ўжо ў 2010 годзе — і тут вырашальным фактарам, які паўплываў на мой выбар, стала смерць рэдактара сайта «Хартыя-97» Алега Бябеніна. Пасля яе я вырашыў прыйсці ў ініцыятыўную групу кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава.

Перадвыбарчая кампанія 2010 года — гэта быў час вялікіх надзей, хоць кожны дзень на пікеты па зборы подпісаў прыходзілі людзі, што даволі скептычна ацэньвалі шанцы нешта змяніць у нашай краіне. Я трапіў у групу па зборы подпісаў Максіма Вінярскага — і практычна кожны дзень мы стаялі з нашымі пікетамі, найчасцей у Фрунзенскім раёне, на станцыі «Пушкінскай» або каля «Кароны», рыхтавалі сустрэчы кандыдата з выбаршчыкамі, хадзілі па горадзе са сцягамі... Даволі часта ў нас стаяла чарга з грамадзян, жадаючых паставіць свой подпіс за Саннікава. У той час як у будучага «пераможцы» за дзень, бывала, не знаходзілася і дзясятка прыхільнікаў. Тады якраз выходзіла мая першая кніга «Землеўладальнікі Мінскай губерні 1861–1900», і мне даводзілася аддаваць ёй шмат часу, а на пікетах я з’яўляўся па меры магчымасці. Але і такім чынам я набраў каля 800 подпісаў, а ўся наша група з чалавек дзесяці, большасць з якіх займалася зборам подпісаў у вольны час, — каля 5000.






*Прэзідэнцкія выбары 2010.*

Вядома, тады прыйшлося пагутарыць з сотнямі грамадзян, многія з якіх жадалі не толькі падпісацца, але і пагаварыць аб праблемах нашай краіны. Былі тыя, хто баяўся пакідаць свае дадзеныя: «А мне за гэта нічога не

будзе?», «А мяне з працы не звольняць?», «А куды пойдуць потым гэтыя спісы — не ў КДБ?» Адчувалася, што людзі хочуць пераменаў, але яны запалоханыя і многія ўжо зусім страцілі веру.

Натуральна, у нас была вера, што вось у гэты раз нешта атрымаецца, але ў тым, што галасы ніхто не будзе лічыць, мы не сумняваліся. Таму ўся надзея была на Плошчу, хаця рэальна ніхто з нас не ўяўляў, як і што трэба будзе на ёй рабіць. Наўрад ці хто-небудзь з нас быў настроены на нейкія рашучыя дзеянні, як здарылася на Майдане ў Кіеве. Наўрад ці нехта задумваўся пра тое, што ніхто не аддасць сваю ўладу шляхам перамоваў... Мы ведалі, што наш кандыдат перамог бы на сумленных выбарах, і рабілі ўсё, каб хаця б наблізіцца да гэтай перамогі. Але галоўным пытаннем было: ці прыйдуць людзі? Бо хоць у нас часам і стаялі чэргі — але пераважная маса людзей наогул праходзіла міма — і міма нас, і міма пікету Лукашэнкі. Часам мы горка жартавалі, што прыйдзем на Плошчу — а там толькі мы...

Задоўга да 19 снежня мы з сябрамі часта размаўлялі, спрабуючы прадказаць нейкія варыянты. Але акрамя таго, што трэба закупіць цёплую вопратку, нічога не прыдумалі. Меркавалі, што стаяць прыйдзецца доўга, магчыма, жыць у палатках, а маразы тады былі не абы-якія. Таму незадоўга да дня галасавання мы хадзілі па Камароўцы, закупляючы рукавіцы, шапкі і тоўстыя вусцілкі. Прадаўцы нас пыталіся: «Для Плошчы?» — і, напэўна, мы маглі разлічваць на добрыя зніжкі. Гэта і была адзіная падрыхтоўка да «захопу ўлады».

Але планы, вядома, былі — планы сакрэтныя, планы сур'ёзныя, — пра якія, напэўна, ніхто яшчэ не расказваў. За некалькі дзён да 19 снежня, позна ўвечары на дзвюх машынах мы з нашай групай выехалі за горад — папярэдне не толькі адключыўшы тэлефоны, але і дастаўшы з іх акумулятары. Мы доўга ехалі, рызыку-

ючы загразнуць у сумётах, у нейкую глуш у бок Ракава, дзе, спыніўшыся на засыпанай снегам прасёлкавай дарозе, выйшлі з машын, доўга чакалі, ці няма хваста, і Максім Вінярскі правёў сакрэтную нараду. Пасля такіх мер бяспекі мы гатовыя былі пачуць нешта важнае...

Але праўда была зусім іншая. Аказалася, што наша група будзе адказнай за дастаўку на Плошчу... гукаўзмацняльнай апаратуры. На снезе Максім, баючыся вымавіць гэта ўслых, каб не падслухалі ворагі, намаляваў схему, дзе менавіта мы павінны ўсталяваць калонкі — было два варыянты: на прыступках Палаца прафсаюзаў ці Палаца Рэспублікі. Вядома, гэта было вельмі адказнае заданне, але... На пытанне, што будзе далей, ён гэтак жа, як і мы, не ведаў адказу: можа, пойдзем у бок тэлецэнтра, патрабаваць эфір, можа, да рэзідэнцыі на перамовы. Усім стала зразумела, што ніякага плана няма і ўсё будзе чыстай імправізацыяй. І гэта праўда: самы сур'ёзны наш план па «захопу ўлады» быў намаляваны галінкай на снезе...

І вось настала 19-е. З самай раніцы было нейкае хваляванне, чаканне чагосьці важнага, грандыёзнага. Усе разумелі, што, калі загадаюць, нас будуць збіваць дубінкамі, нас будуць на марозе паліваць вадой, у нас будуць страляць. Ні ў каго не было сумневу, што мы, бяззбройныя, ідзём супраць велізарнай сілы, безагаворачна падуладнай людзям, якія цяпер маюць усё: уладу, грошы, катэджы ў «Драздах», хто сам і чые дзеці і ўнукі ўладкаваныя ў гэтым жыцці на доўгія гады... і за гэтую шчаслівую стабільнасць яны закатаюць у асфальт дзясяткі і сотні сваіх праціўнікаў.

Намі ж кіравала выключна прага справядлівасці і пераменаў, ніхто з маіх знаёмых не толькі не атрымаў за выхад на Плошчу ні капейкі, але і, упэўнены на 100 адсоткаў, адхіліў бы падобнае як абразу. Магчыма, што ў нейкіх групах плацілі за ўсё, але мы за агітацыю, за пі-

кеты, за выхад на масавыя акцыі і іншае ніколі не атрымлівалі ніякіх грошай. Часам мы бачылі, як нашы суседзі, напрыклад па групе Някляева, малявалі актыўнасць толькі калі прыязджалі правяраючыя, а потым зноў пілі гарбату ў палатках, у той час як мы, агітуючы, мерзлі на вуліцы, — аказалася, што ў іх была пагадзінная аплата за любую працу, чаго ў нас не было. Часта за свае грошы даводзілася купляць нават скотч, каб прыляпіць агітацыйныя плакаты на інфармацыйныя стэнды (о, як дрэнна яны ляпіліся на 10–15-градусным марозе!).

Ніякіх вялікіх грошай у нашай каманды не было. Як пасля прызнаўся сам Някляеў: «Мы ў “Гавары праўду” акумулявалі ўсе сродкі. Мы дамовіліся аб гэтым з людзьмі, якія спрыялі фінансаванню кампаніі, — каб больш сродкаў... нікому не давалі». Так што адзінае, за што плацілі, — гэта за сабраныя подпісы, па 0,5 долара, але і ад гэтых грошай многія адмаўляліся (хоць праца гэтая была не такая ўжо і лёгкая — гадзінамі стаяць на вуліцы, а восень тады была вельмі халодная). Першы раз патрапіўшы ў ініцыятыўную группу, я нават не ведаў пра такую практыку заробку. Аказалася, што ў групах былі свае прафесійныя зборшчыкі, якія прайшлі ўжо мноства кампаній і прыйшлі, каб зарабіць грошай на найбольш перспектыўных кандыдатах. Яны ведалі самыя «рыбныя месцы», і мне даводзілася чуць пра тое, што зборшчыкі на Камароўцы ледзь не біліся за добрае месца. Ніхто з маіх сяброў не прыйшоў у ініцыятыўную групу дзеля грошай. Хоць, вядома, усім тым, хто выйшаў у той дзень абараняць чужы дабрабыт, прачыталі палітінфармацыю, што супраць іх стаяць «прадажныя грантасмокі» і што нікога з іх можна не шкадаваць, бо яны ўсяго толькі зарабляюць такім чынам грошы.

Раніцай, прадчуваючы сур’ёзныя перамены ў жыцці, я схадзіў у любімыя Дразды. Пасядзеў на беразе возера, развітаўся з ім — разумеў сур’ёзнасць будучага мера-

прыемства. Было вельмі холадна, і я не прыдумаў нічога іншага, як апрануць дзве курткі — стары, яшчэ часоў перабудовы, сіні кітайскі пухавік, а пад яго тонкую чорную вятроўку. Таксама я надзеў і дзве шапкі: зверху была сіняя, знізу — колеру хакі. Цяпер, праз шэсць гадоў, пасля суда і вызвалення ў мяне няма ніякіх прычын нешта хаваць — сапраўды, адзінай прычынай такой формы было тое, што мы планавалі правесці на жудасным марозе ўсю ноч, а можа і не адну. Потым, ужо ў Масюкоўшчыне, пад'ехалі Саша і Максім, і Макс даў мне мегафон з «Пагоняй» — якому мелася адыграць важную ролю ў маім лёсе.

Праз некалькі гадзін Вінярскага, як ён ні маскіраваўся, прэвентыўна арыштавалі, і на Плошчу ён, да свайго найвялікшага жалю, не трапіў. Разумеючы, што адкрыта пранесці гэтую гукаўзмацняльную прыладу на Плошчу не атрымаецца, я выйшаў у парк і сарваў некалькі яловых лапак. Затым паклаў гэты даволі вялікі мегафон у пакет, а зверху ўваткнуў елачныя вершалінку і галінкі, нібы ў пакеце елка — быў якраз пярэдадзень Калядаў — атрымалася вельмі пераканаўча. Потым даехаў у раён Палаца спорту. Усюды была бачная маштабная падрыхтоўка: міліцыя, спецназ, аўтазакі... Я прайшоў уздоўж Свіслачы і ўбачыў, што ў Верхнім горадзе стаяць дзясяткі ваенных машын — пасля казалі, што ў іх сядзелі нават ваеннаслужачыя тэрміновай службы з агнястрэльнай зброяй, зараджанай зусім не халастымі патронамі, а дзе-нідзе стаялі БТРы. Мне прыйшлося нават схаваць маю ношу ў снег, прайсці наперад на разведку, а потым вярнуцца па «елачку». Адчуваў сябе партызанам у акупаваным ворагамі Мінску.

У раёне Траецкага прадмесця мне патэлефанаваў знаёмы і распавёў, што адбылося з групай Някляева, калі «людзі ў чорным» напалі на іх, забралі апаратуру, збілі актывістаў, журналістаў і самога кандыдата ў прэ-

зідэнты. Тады яшчэ галасаванне афіцыйна не скончылася. Пасля была зроблена спроба абвінаваціць у гэтым нападзе канкурэнтаў Някляева, г. зн. нас — «баевікоў» Саннікава і Статкевіча, — і нават начальнік яго штаба Андрэй Дзмітрыеў выступіў па БТ з расповедам, як іх ратавала міліцыя, што не можа выклікаць нічога акрамя смеху. Ведаю, што гэты ўчынак рэжыму шмат у каго выклікаў гнеў, што потым, магчыма, і выплюхнулася ў нейкія рашучыя дзеянні каля Дома ўрада.

Падысці да Кастрычніцкай плошчы было складана — з усіх бакоў, на ўсіх падыходах вакол яе стаялі дзясяткі людзей «у цывільным». Калі яны і прапускалі асобных людзей, то мне з мегафонам ісці туды было рызыкоўна. Я выклікаў таксі, папрасіў прытармазіць каля плошчы і дэсантаваўся там.

Людзей было ўжо даволі шмат, і я з цяжкасцю прасунуўся наперад, туды, дзе луналі сцягі «Еўрапейскай Беларусі». На жаль, спроба ўключыць мегафон скончылася нічым — замёрзнуўшы, ён больш не запрацаваў. З лесвіцы ўжо выступалі людзі, нават нешта ўдавалася разабраць. Потым, хоць, як я пачуў, планавалася ісці да рэзідэнцыі, народ, развярнуўшыся на 180 градусаў, выйшаў на праспект Незалежнасці, і ўся маса, прайшоўшы скрозь тонкі шыхт дэпээснікаў, чамусьці рушыла да Дома ўрада.

Гэты паход, напэўна, і стаў самай яркай падзеяй за ўвесь дзень. У нейкі момант цалкам паверылася, што рэжым упаў, мы вольныя, наперадзе новае жыццё! Я ішоў дзесьці ў сярэдзіне гэтага патоку і не бачыў ні яго пачатку, ні канца. Потым я нават заўважыў сябе на відэа, паказаным па беларускім тэлебачанні. На плячы ў мяне вісеў мегафон. Усе людзі ішлі ў выдатным настроі, не было ніякай агрэсіі, ні адна машына або вітрына не была нават падрапаная. Нават каля будынка КДБ у нас не ўзнікла ніякіх праблем, хоць, як я пасля даведаўся,

усярэдзіне ўсе былі гатовыя да магчымага штурму і там нават пажарныя стаялі з брандспойтамі. Але ніхто не збіраўся штурмаваць ніякія крэпасці, бо планавалася выключна мірнае мерапрыемства.

Выйшаўшы на плошчу Незалежнасці, нейкі час мы не маглі зразумець, куды ісці далей, што рабіць. У маіх таварышаў быў яшчэ адзін такі ж мегафон, які працаваў, і яны ў яго па чарзе крычалі розныя лозунгі: «Жыве Беларусь!», «Ідзі!», «Верым, можам, пераможам!» і іншыя. Потым усе перайшлі бліжэй да Чырвонага касцёла, з лесвіцы якога выступілі кандыдаты. Пасля чаго ўсе яны пачалі рух у бок помніка Леніну. Першыя дэманстранты толькі пачалі займаць прастору перад і за гэтым помнікам, а ў Доме ўрада ўжо чуўся звон шкла.



*Прэзідэнцкія выбары 2010.*

Каля дзвярэй было вельмі мала народу — можа быць, чалавек 10–20, — некалькі чалавек пачалі біць шыбы, астатнія «людзі ў цывільным» стаялі і назіралі за працэсам. Магу выказаць здагадку, што гэтае дзейства

работнікі міліцыі маглі цалкам без праблем спыніць на гэтай стадыі, але яны гэтага не зрабілі. Асноўная маса не толькі не ўдзельнічала ў біцці шыбаў, але, наадварот, зрабіла ўсё, каб спыніць гэтых людзей. Не меней як паўгадзіны мы стаялі і скандавалі: «Правакацыя!!!» У той момант мы знаходзіліся бліжэй да помніка Леніну, і тое, што тады адбывалася каля дзвярэй, я ўбачыў толькі пасля, на відэа ў інтэрнэце.

Па хранаметражы падзей, які маецца ў інтэрнэце, першы ўспамін пра нешматлікую групу людзей, якія спрабуюць выбіць дзверы, з’явілася ў 21:40, а паведамленне пра тое, што спецназ зрабіў спробу адціснуць іх ад дзвярэй, толькі ў 22:30. Г. зн. біццё шыбаў працягвалася каля гадзіны, увесь гэты час вялікая колькасць людзей, сярод якіх былі і прадстаўнікі сілавых структур, стаялі вакол, здымалі на відэа і фота, а ў самім дзеянні актыўна ўдзельнічала чалавек 20–30. Не толькі шараговыя актывісты, нават некаторыя кандыдаты ў прэзідэнты рабілі спробу спыніць гэтых людзей, але гэта ў іх не выйшла. Увесь гэты час мітынгоўцы, якія апынуліся паміж Домам урада і помнікам, утварыўшы калідор, працягвалі скандаваць: «Правакацыя!» Там стаяў і я з сябрамі. Астатнія ж, хто знаходзіўся на самой плошчы, нават не бачылі таго, што адбываецца каля дзвярэй.

У нейкі момант стала зразумела, што шляху назад ужо няма — цэлую гадзіну працягваецца «спроба штурму», а для абгрунтавання прымянення сілы супраць мітынгоўцаў было б дастаткова аднаго разбітага акна. Гэта была самая дзіўная спроба штурму, якую можна ўявіць, — бо перад атакуючымі, каб у іх было рэальнае жаданне патрапіць усярэдзіну, былі не толькі выдатна абароненыя сіламі спецназа і пажарнымі з брандспойтамі некалькі дзвярэй, ужо закрытых дошкамі, але і сотні вокнаў, з якіх ні адно нават не было разбіта. Ніхто не паспрабаваў разабраць брук, расстарацца нейкія іншыя

сродкі для актыўных дзеянняў. Для «штурму» выкарыстоўвалася тое, што, падобна, дасталі са скрыні дворніка: рыдлёўку і ледасек (як назвалі ў пратаколах звычайную матыку) і вуды, на якіх віселі сцягі (гэтыя вуды былі названыя ламамі).

Цяжка сказаць, што менавіта падштурхнула мяне да дзвярэй Дома ўрада — была тут і цікаўнасць, усведамленне таго, што мы ўсе ўдзельнічаем у гістарычнай падзеі. Было і разуменне, што цяпер нельга бяздзейнічаць, нельга стаяць, бо назад ужо нельга — можна толькі наперад. І назапашаная за ўсю перадвыбарчую кампанію злосць на існуючую несправядлівасць, асабліва ўзмоцненая пасля нападу на Някляева і паведамлення першых вынікаў «выбараў»: каля 80 адсоткаў за Лукашэнку. Як бы там ні было, я падышоў да гэтых дзвярэй. Каля іх было ўжо зусім мала народу, каля дзвярэй, да якіх падышоў я, стаялі нейкія два хлопцы і безвынікова спрабавалі голымі рукамі стукаць па дошках, што закрывалі дзвярныя праёмы, — падобна, што былі гэта нейкія сталы або шафы. Тады я і нанёс па гэтых дзвярах удараў хіба шэсць — не болей. Дошка нават не трэснула, а вось мой мегафон спляскаўся...

У гэты момант спецназ перайшоў да актыўных дзеянняў, я нават не заўважыў, адкуль яны з'явіліся. Тут жа, каля дзвярэй, знаходзячыся спінай да плошчы, я ўбачыў бакавым зрокам, што нас акружаюць, пачаў паварочвацца і атрымаў удар дубінкай па галаве, па правай скроні. Толькі тое, што на мне былі адразу дзве шапкі, выратавала мяне ад сур'ёзнай траўмы. Але нават праз гэтую абарону я атрымаў такі ўдар, што яшчэ некалькі тыдняў мне балела галава і нават сківіца. Таксама пару разоў я атрымаў па спіне і па плячах — але тут ужо ўдары былі не такія моцныя. Даводзілася рэагаваць імгнення, і нейкім чынам я вырваўся за спецназаўцаў, якія выстройваліся ў шэраг. Рэшткі мегафона, што засталіся ў маіх

руках, я кінуў у надыходзячых амапаўцаў, натуральна, не нанесшы ім ніякіх пашкоджанняў (пасля бачыў гэты момант на відэа ў інтэрнэце). Гэтак жа, як і мае ўдары па дзвярах, гэта быў, хутчэй, жэст адчаю. Праз пару хвілін ланцуг «абаронцаў» спыніўся.

Паміж мітынгоўцамі і міліцыяй утварыўся невялікі калідор, па якім і ішоў грамадзянін Шылко — як аказалася, аператар ГУУС Мінгарвыканкама ў цывільным — і «дакументаваў» тое, што адбываецца. Здымаў ён людзей з вельмі блізкай адлегласці — каля метра, ды яшчэ на камеры гарэла яркая лямпа. Пасля ўсіх прыгод, якія выпалі на маю галаву, я не вельмі хацеў патрапіць на відэа, ды і сам факт, калі табе ў твар тыкаюць камерай, не вельмі прыемны, і паспрабаваў захінуцца ад яго.

Я даволі зло махнуў у яго бок два разы рукой (на відэа і на стоп-кадры добра відаць, што рука нават не сціснутая ў кулак). Ён ухіліўся. Не памятаю, ці патрапіў яму па руках або па камеры. У любым выпадку, пасля гэтага сутыкнення я развярнуўся і сышоў, а ён рушыў далей. Увесь яго шлях я бачыў ужо ў кабінеце следчага на відэа, знятым самім Шылко: даставалася яму і да, і пасля мяне. Так, праз некалькі метраў ён справакаваў А. Лябедзьку, у чыіх дзеяннях пасля не было выяўлена ніякага складу злачынства. А значыць, іх не было і ў маіх. Гэта пацвердзіў сам «пацярпелы» на судзе, сказаўшы, што ён не можа дакладна вызначыць, хацеў я захінуцца або стукнуць яго, і што ён не мае да мяне ніякіх прэтэнзій.

Хутка гэтая група спецназаўцаў уцякла, выклікаўшы радасць: «Міліцыя з народам». Але міліцыя апынулася з тым, хто шчодра аплачвае яе паслугі па падаўленні народа, што хутка і даказала сваімі дзеяннямі. Далейшы разгон паказаў, наколькі гэтыя стварэнні ненавідзяць людзей, калі яны збівалі старых, жанчын, дзяўчат. Прычым было відаць, што яны атрымліваюць ад гэтага задаваль-

ненне і нібы спаборнічаюць, хто прычыніць больш болю. Я не бачыў, што адбывалася на самой плошчы, і вельмі хутка нас адрэзалі ад яе сцяной спецназаўцаў у некалькі шэрагаў. Мае таварышы вырашылі сыходзіць, што ім, на шчасце, удалося. Я застаўся, каб стаяць да апошняга. Не ведаю, што гэта было — упартасць ці нешта іншае, наўрад ці геройства — у нашым далейшым знаходжанні не было ўжо ніякага сэнсу. Я зразумеў, што не магу збегчы, нібы прымерз да зямлі, стаяў і глядзеў, як спецназ адпрацаванымі дзеяннямі рассякаў астатні натоўп на часткі, і толькі нешматлікія людзі спрабавалі хоць неяк супраціўляцца...

Вельмі хутка нас усіх дубінкамі і шчытамі сціснулі ў вузкі калідор і з аднаго канца яго падагналі аўтазак (на самай справе, гэты новы сімвал сучаснай Беларусі — гэта машына спецыяльнага прызначэння МАЗ-Купава 573150). «Абаронцы айчыны» сыпалі дубінкамі налева і направа, не разбіраючыся, хто перад імі, і я закрываў галаву рукамі. У мяне на шыі ўсю дарогу з Кастрычніцкай быў павязаны сцяг Еўрасаюза — за яго мяне сталі цягнуць з усіх бакоў, спрабуючы атрымаць такі шыкоўны трафей. Баючыся, што мяне проста задушаць гэтым сцягам, я развязаў вузел, і нейкі «герой» пацягнуў сцяг. Ударамі нас загналі ў чарговы пад'ехаўшы аўтазак.

Цяжка сказаць, колькі людзей было ў гэтай душагубцы: стаялі вельмі шчыльна, было цяжка дыхаць. Былі і хлопцы, і дзяўчаты, у асноўным моладзь. Былі параненыя. Стала вельмі горача, я зняў пухавік і шапку. Акрамя таго, я разумеў, што трапіў на відэа і па гэтай куртцы мяне лёгка апазнаюць, так што пазбавіўся ад гэтых доказаў, кінуўшы іх там.

Далейшыя падзеі да моманту выхаду з Жодзінскай турмы выкладзены ў дзённіку. Тады нас, ладна зарослых барадамі — ніякія прылады для галення ў гэтай турме нам былі недаступныя, — на аўтобусах давезлі да стан-

цыі метро «Уручча», дзе выпусцілі. Другі аўтобус паехаў на іншую станцыю. Гэта была даволі дзіўная спецаперацыя, калі людзей, якія ўжо выйшлі на свабоду і атрымалі дакумент аб вызваленні, везлі, як арыштаваных, не выдаючы нашы мабільныя тэлефоны і не кажучы, куды нас вязуць. Падобна на тое, што разумелі, што, калі гэтая інфармацыя стане вядомая, нас прыйдуць сустракаць як герояў.

У мяне заставаўся месяц волі. Тое, што рана ці позна мяне арыштуюць, я падазраваў — бо ведаў, што патрапіў на відэа. А паведамленні пра арышты, ператрусы або вымушаныя ад'езды за мяжу прыходзілі кожны дзень. Да майго жаху, я сам убачыў сябе на некалькіх роліках, паказаных па БТ. Нават знаёмыя сталі тэлефанаваць і казаць, што яны мяне бачылі... Многія са знаёмых, баючыся затрыманняў, у першыя ж дні рознымі таемнымі шляхамі з'ехалі за мяжу. Візы ў мяне не было, так што бегчы мне не было куды — хіба што ў Расію. Акрамя таго, я нават не мог яе атрымаць — бо майму пашпарту было ўжо больш за 10 гадоў. І ўсё, што я паспеў, дык гэта толькі здаць дакументы ў пашпартны стол на новы, які атрымаў ужо ў жніўні пасля вызвалення. Але трэба меркаваць, што ў маім жыцці рэалізаваўся лепшы варыянт, і я рады, што не з'ехаў тады з Беларусі.

Зрэшты, увесь гэты час мы не сядзелі склаўшы рукі: у атмасферы агульнага страху і прыгнечанасці расклейвалі ўлёткі з партрэтамі нашых затрыманых сяброў, былі на ўсіх акцыях, якія праходзілі ў Мінску. Былі мы і на нешматлікай акцыі на Кастрычніцкай плошчы ў дзень інаўгурацыі 21 студзеня, калі Максім прысягнуў на Канстытуцыі: ніколі не прызнаваць гэтага чалавека прэзідэнтам, а некалькі тых, хто прыйшоў, сярод якіх была Юлія Сцяпанава (яе маму Аксану «абаронцы айчыны» выцягнулі прама з таксі, і яна правяла 10 сутак у турме), запалілі свечкі. Былі мы 30 студзеня на акцыі каля КДБ,

калі затрымалі Вінярскага, Паліну Кур'яновіч і Кацярыну Людвіг. 31-га я быў у іх на судах. Пасля папрацаваў у архіве, замовіў новыя справы. Назаўтра я планаваў адвезці Максіму перадачу, якая ўжо стаяла ў мяне дома...

Але зраніцы па мяне прыйшлі...

# БУНТ БОТАНИКОВ

*Посвящается*
*Артёму Грибкову — Поэту и Герою.*

***20 декабря***

Несколько часов провели на Окрестина[1]. В автозаке[2] — человек 60. Сидели по очереди. Не было воды. Кто-то делился йогуртом, мандаринами, конфетами.

Выгнали из автозака, руки за спину, поставили в коридоре — он уже весь забит людьми. Подходят, спрашивают: имя, отчество, фамилия, дата рождения, адрес. В коридоре полная неразбериха, людей около двух сотен[3]. Девушек увели наверх. Стояли лицом к стене, руки за спину. Мобильные приказали выключить, поэтому времени не знали. Часа через 2–3 разрешили повернуться и сесть на пол. Все расселись как могли, стало полегче и посвободнее. В туалет водили по просьбе.

Перевели на второй этаж — там народа было меньше, были девчонки, некоторые совсем дети.

Повели в соседний блок — составили опись вещей, забрали шнурки, мобилки (нашли ту, что я хотел спрятать в носке). Написали протокол задержания: «…Шёл, кричал лозунги “Жыве Беларусь” и “Уходи!”…» Написал замечание, что никто не предупредил, что митинг

несанкционированный, и что не считаю моё участие активным. Вывели обратно.

Пробежал какой-то бешеный начальник, и всех опять поставили лицом к стене. Постепенно стали расслабляться, и через час все опять сели на пол. Повели на третий, сняли отпечатки пальцев. В туалете нет мыла, так что руки остались чёрными от краски, но хоть была возможность сходить в туалет и выпить воды. Какое-то время стояли на третьем. Везде царит путаница. Народа много. Отвели обратно — присел к девушке, спросил, сколько ей лет (21, учится на филфаке БГУ, говорит только на белорусском). Поговорили[4].

Когда отвели в автозак, было уже светло (сколько времени — не знаю). Посадили человек 25–30, повезли в суд — Заводской. На входе выстроили целую цепь — штук 50 ментов! Завели в зал заседаний — там было всего 3–4 охранника. Все сразу попробовали заснуть. Стояла тишина. По одному-два стали вызывать к судье. Передо мной в коридоре стояла та девушка, с которой говорил на Окрестина, — ей дали 10 суток. На самом деле сложно описать свои эмоции: такая молекула, совсем не похожа на боевика — и такой срок! Было ясно, что нас решили не прощать.

Зашёл к судье [судья Жанна Хвойницкая] — задала пару вопросов. Сказал, что не принимал активного участия, что не слышал предупреждений милиции, хоть и понимал, что участвую в несанкционированном митинге. На вопрос: «Почему вышел на Площадь?» сказал: «Ну, так с БТ призывали». — «Поддался влиянию?» — прокомментировала судья…

Вывели в коридор, через какое-то время вынесли постановление. Сначала сказали расписаться, потом дали бумажку — прочитал только в автозаке. Дали 10 суток. Оказалось, что против меня были рапорты аж трёх свидетелей!!! Ни они меня, ни я их не видели. Уверен, что

эти люди даже не смогли бы ответить на элементарные вопросы адвоката — ясно, что абсолютно подставные. Стало весело от такого правосудия. Вот, значит, как всё это работает! В автобус постепенно возвратились «подельники». Только одной девчонке дали 5 суток, остальным — 10, нескольким — 15. Абсолютно не была понятна логика: за что давали 10, а за что 15? Как будто бросали кубики — что выпадет, то и писали.

Постановление
по делу об административном правонарушении

20 декабря 2010 г. судья суда Заводского района г. Минска Хвойницкая Ж.А. рассмотрев дело об административном правонарушении по ч. 1 ст. 23.34 КоАП в отношении Дрозда Дмитрия Михайловича, 26.03.1973 года, не работающего, проживающего по ул. [redacted], паспорт серии [redacted] л.н. [redacted], выдан Фрунзенским РУВД г. Минска 07.07.1999 года,

УСТАНОВИЛ:

Дрозд Д.М. 19.12.2010 г. в период времени с 21.45 часов до 23.30 часов принимала активное участие в несанкционированном митинге у дома № 11 по ул. Советской в г. Минске, при этом выкрикивал лозунги «Жыве Беларусь» и «Уходи», на неоднократные требования сотрудников милиции прекратить противоправные действия не реагировал, чем нарушил порядок проведения массовых мероприятий.

В судебном заседании Дрозд Д.М. вину признал частично. Суду пояснил, что 19.12.2010 г. в период времени с 21.45 часов до 23.30 часов он действительно принимал участие в несанкционированном митинге у дома № 11 по ул. Советской в г. Минске, при этом выкрикивал лозунги «Жыве Беларусь» и «Уходи». На неоднократные требования сотрудников милиции прекратить противоправные действия он не реагировал, однако считает, что не был активным участником митинга.

Вина Дрозда Д.М. в совершении правонарушения, предусмотренного ч.1 ст.23.34 КоАП, несмотря на частичное признание своей вины подтверждается фактически его показаниями о том, что он принимал участие в несанкционированном митинге, а также письменными материалами дела: протоколом административного задержания от 19.12.2010 года, протоколами опросов свидетелей Строха Н.А., Анопа А.С., Зезетко Ю.Г.

Оценивая собранные по делу доказательства, суд считает, что Дрозд Д.М. совершил правонарушение, предусмотренное ч.1 ст.23.34 КоАП Республики Беларусь.

Смягчающих и отягчающих ответственность обстоятельств нет.

При определении меры административного взыскания суд учел характер совершенного административного правонарушения, обстоятельства его совершения и личность Дрозда Д.М., а также то обстоятельство, что Дрозд Д.М. в содеянном не раскаялся.

На основании изложенного, руководствуясь ст. 11.9, 11.11 ПИ КоАП Республики Беларусь,

ПОСТАНОВИЛ:

подвергнуть Дрозда Дмитрия Михайловича по ч.1 ст.23.34 КоАП административному аресту на срок 10 (десять) суток.

Срок исчислять с момента задержания.

Исполнение постановления поручить Заводскому РУВД г. Минска.

Постановление по делу об административном правонарушении может быть обжаловано (опротестовано) в течение 10 суток в Минский городской суд через суд Заводского района г. Минска.

Судья:



ВЕРНО

Судья

Справка: постановление не обжаловано, не опротестовано и вступило в законную силу

Судья

В автозаке удалось позвонить маме. Она, оказывается, не поняла, что меня задержали, и всё время была в неведении, где я пропал, куда-то звонила. Сказал, что дали 10 суток. Поговорил всего минуту — но хоть не будет так беспокоиться. В суде стояли очень долго и ждали, пока соберутся все остальные, — всё время был без вещей, даже без шнурков. Не знаю, нормально ли это — стоять перед судьёй без шнурков.

Многие девчонки плакали: у кого-то завтра диплом, кому-то на работу. Собственно, наши проблемы никого не волновали. Перевели в другой автозак — там даже не разрешали звонить. Омоновцы в отличие от предыдущих вели себя нагло, по-хамски — угрожали. Их тоже набралось целая команда — человек шесть. Остальные были не такие агрессивные — постепенно мы их разговорили. Сказали, что, по их данным, на Площади было 11 000 человек, что мы все пришли туда за деньги. Так как вместе мы просидели часа три, а то и больше, то успели о многом поговорить. Меня назвали Историк, и

один всё время просил что-то рассказать. А другой пустил по кругу бутылку со «Швепсом» — было очень кстати, так как большинство из нас не пили уже больше суток.

Привезли обратно на Окрестина. Опять поставили в коридоре. Там были не очень долго. Начали разбираться с вещами. Как всегда, путаница. Потеряли опись моих вещей — точнее, в суматохе второй экземпляр, для меня, не написали. Просто положили бумажки.

Посидели в автобусе — везут в Жодино на автобусе, нас человек 10 и ментов столько же. Опять путаница: кого-то лишнего погрузили, не смогли посчитать.

Поехали. В большинстве заснули. Менты слушали песню «Саня останется с нами». На улице ночь, сколько времени — неизвестно. До Жодино ехали около часа. Потом ещё столько же стояли в очереди на разгрузку. «Тюрьма № 8»[5], — сказал один из охранников. Было около 23 часов.

Начали выгружать: «Бегом!» Поставили к стене лицом, пересчитали. Повели по коридорам. Обшманали. «Стать к стене лицом, руки — на стену, ноги — шире!» — мент привычным движением бьёт по ноге, чтоб они разъехались, как можно шире. Ведут по коридорам — каждый пронумерован: № 1, № 2, № 3 — длиной метров по 100, а то и больше[6]. Поворот направо, потом опять направо. Потом поднялись на первый этаж. Там снимали опять на видео, раздели догола, проверили вещи, составили новую опись.

Загнали в камеру — камера с двухэтажными нарами на 8 человек — нас человек 25. Кто-то залез наверх, легли по два. Кто-то спал за столом. Я прилёг на полу возле батареи. Все были измучены — моментом заснули…

87 Касякі, апушчаныя, адсаджаныя на кружку... — усё гэта назвы вязняў з нізкім статусам. Іх жыццё на зоне найбольш цяжкае, бо акрамя звычайных для ўсіх асуджаных складанасцяў да іх дадаюцца пастаянныя прыніжэнні і ад іншых зняволеных. У каранціне было два так званыя касякі. Яны жылі ў асобным пакоі, карысталіся сваёй прыбіральняй, рукамыйнікам, елі, адпачывалі, стаялі на пастраенні асобна ад астатніх. У іх абавязкі ўваходзіла ўборка прыбіральняў і іншая брудная праца. У санвузле, у якім у адрозненне ад атрадных была магчымасць зачыніць у кабінцы дзверы, у іх быў свой «кабінет», куды ніхто, акрамя іх, не заходзіў. Менавіта там «Кот» і прарабіў дзірку ў склеп, дзе яго і злавілі. Чым для яго скончылася гэтая гісторыя, я не ведаю, — больш яго не бачыў.

88 Усе зняволеныя зоны размеркаваны па атрадах, якія размяшчаюцца ў розных будынках па ўсёй тэрыторыі. Падчас майго знаходжання ў ВК-2 іх там было каля 23 ці нават больш. Былі спецыяльныя атрады, дзе знаходзіліся толькі зняволеныя, якія супрацоўнічалі з адміністрацыяй, займалі розныя пасады, выконвалі нейкія гаспадарчыя работы. Гэтыя атрады лічыліся не вельмі прэстыжнымі сярод астатніх асуджаных.

89 Казлы — статус асуджаных, якія супрацоўнічаюць з лагернай адміністрацыяй. У блатным свеце лічацца адным з пагарджаных класаў, але ў ВК-2, дзе ў асноўным былі «першаходы», а сама зона лічыцца «чырвонай» — г. зн. там усім кіруе менавіта адміністрацыя, — цалкам паважаныя людзі. Сярод гэтай катэгорыі шмат вельмі розных арыштантаў — ад забойцаў з вялікімі тэрмінамі да адукаваных людзей, якія селі за эканамічныя ці нейкія выпадковыя злачынствы. Па старых крымінальных паняццях, кожны, хто ўступіў у нейкую лагерную секцыю, ужо

супрацоўнічае з адміністрацыяй, а значыць, варты пагарды. Зараз жа ўжо пры паступленні ў зону ўсе пішуць абавязацельствы ўступіць у нейкі «гурток па інтарэсах», што, як я зразумеў, з'яўляецца поўнай фікцыяй. Адзінай мэтай гэтага з'яўляецца «запляміць» усіх асуджаных падобным «супрацоўніцтвам», што ў будучыні істотна ўскладніла б ім жыццё, калі б яны патрапілі ў зону, дзе спрабуюць жыць па паняццях. Да гэтай катэгорыі адносіцца ўвесь актыў атрада: загадчык гаспадаркі, днявальныя, брыгадзіры і г. д. У адрозненне ад касякоў, гэтая катэгорыя зняволеных, хутчэй, сама аддзяляецца ад асноўнай масы, з'яўляючыся прывілеяванай, «элітай», ім дазволена больш, чым астатнім. Часта яны жывуць у асобных пакоях з тэлевізарам і іншым камфортам. Ніякага неперааадольнага бар'ера для зносін паміж імі і «мужыкамі» цяпер няма.

90 Кіпяцільнік — рэч, якая цяпер у побыце практычна не выкарыстоўваецца, а ў турме і на зоне гэта прадмет першай неабходнасці. Маленькі элемент незалежнасці, калі практычна ў любы час можаш зрабіць сабе чай, каву, вермішэль хуткага прыгатавання. На Валадарцы было некалькі агульных кіпяцільнікаў, якімі кіпяцілі ваду для агульнай гарбаты або чыфіру, але кожны стараўся мець свой уласны. Кіпяцільнік даволі хутка перагарае. Але і ў турме, і на зоне былі ўмельцы, якія разбіралі іх, перабіралі, замотвалі чым папала — і электрапрыбор зноў выкарыстоўваўся. Аднойчы ў каранціне мой кіпяцільнік выбухнуў у мяне проста ў руках.

91 У адрозненне ад турмы, у лагеры цукар забаронены. Выклікана гэта выключна адной прычынай: каб зняволеныя не ставілі бражку. Калі ў маленькай камеры лёгка ўсё абшукаць, то на 18 гектарах ВК-2 можна схаваць што заўгодна. Увесь гэты час даводзілася піць

несалодкія гарбату і каву, што прыносіла мала задавальнення, нават грахатулькі (карамель) не ратавалі. Замест цукру выкарыстоўваюцца суслі, што надаюць пітву непрыемны хімічны смак.

92 5-ы атрад, куды мяне накіравалі, лічыўся «ўзорна-паказальным», так што адзін з вязняў мне сказаў, што я і зоны сапраўднай не бачыў, з чым не спрачаюся.

93 Заўхоз — фактычна галоўны асуджаны ў атрадзе, прызначаецца адміністрацыяй.

94 Атраднік — начальнік атрада, у адрозненне ад заўхоза — прадстаўнік лагернай адміністрацыі.

95 Тры гэтыя атрады, агульнай колькасцю каля 300 чалавек, размяшчаліся ў двухпавярховых будынках, якія стаяць насупраць, і мелі агульную лакалку, абмежаваную з двух бакоў самімі будынкамі, з трэцяга — лагерным знешнім цагляным плотам, а з чацвёртага — звычайным плотам з брамкай. Так што іх жыхары мелі магчымасць свабодна размаўляць на вуліцы і нават хадзіць адзін да аднаго ў госці.

96 Гісторыя Шутава адна з дзясятка падобных, калі чалавек пераконваў, што асуджаны незаконна. Калі я спытаў яго, чаму ўчастковы забіў яго бацьку, ён сказаў, што той працаваў раней пракурорам і ведаў нейкія сакрэты аб мясцовых махінацыях. На жаль, не памятаю гэтую гісторыю ва ўсіх падрабязнасцях. Было гэта ў Гомелі ці Магілёве. Галоўнае, што ад чалавека, абвінавачанага ў забойстве бацькі, адвярнуліся ўсе сваякі. Яму ніхто не дапамагаў, у яго не было перадач, а значыць, не было нават магчымасці купіць туалетную паперу ці зубную пасту, тым больш не было грошай, каб напісаць касацыйную скаргу. Вядома, таго, што ён зарабляў на промцы (хоць чалавек быў медыкам і мог бы працаваць у шпіталі, але ў такія цёплыя месцы без блату нельга было патрапіць), ні на што не хапала. Часцей за ўсё ў такіх людзей быў толькі адно

выйсце — ісці ў рабы да больш заможных — праць, дзяжурыць за некага і да т. п. за цыгарэты.

97 Лагерная сталовая — гэта велізарны будынак. Харчуюцца атрады ў некалькі змен. Кожны паход у сталовую суправаджаецца абавязковым апрананнем у форму і пабудовай па 5 чалавек. Вяртацца можна без шыхта. Паколькі ў сталоўцы адначасова харчуюцца некалькі атрадаў, то гэта лепшае месца, каб сустрэцца са знаёмымі. Арыштанты з нізкім статусам сядзяць асобна ад астатніх.

98 На самай справе, у гэтай замене не было ніякай паэзіі — як мне растлумачылі дасведчаныя людзі, называнне нас сартавальнікамі, а не грузчыкамі, дазваляла плаціць нам у шмат разоў менш, а па сутнасці людзі працавалі бясплатна. Уся брыгада за месяц працы з зарплаты купляла два пачкі гарбаты.

99 У адрозненне ад нейкага пераканання, што ў зонах цяпер «зусім не тое, што раней» — хоць, безумоўна, паступовы прагрэс ёсць, сталае меркаванне, што «кулак па зоне не гуляе», не з’яўляецца праўдай. Усяго за месяц на зоне я стаў сведкам некалькіх боек. Асабліва ўражлівай была першая бойка ў сталовай, калі некалькі квадратных метраў падлогі былі ў крыві. Адну бачыў з акна секцыі. Акрамя таго, напрыклад, расказвалі, як адзін наш суатраднік «упаў з ложка» і заехаў у бальніцу. На самай справе, ён шмат каму завінаваціўся і за гэта быў пакараны. Нават у нашым узорна-паказальным атрадзе агрэсіўнасць, абразы, пагрозы, кепікі са слабейшых і падобнае было нармальнай з’явай.

100 У ВК-2 даволі развітая прамысловасць — працу зняволеных выкарыстоўваюць па поўнай. Тут ёсць швейнае прадпрыемства (шыюць вопратку для зняволеных: робы, шапкі, целагрэйкі, матрацы, пасцельную бялізну), цэх дрэваапрацоўкі (дзверы, вок-

ны, паддоны, скрыні), участак па апрацоўцы гумы (шаўроны і інш.), металаапрацоўка (кузаўныя работы, цвікі і да т. п.), разбіраюць акумулятары, пякуць хлеб... На кваліфікаваных працах людзі хоць нешта зарабляюць.

101 У кожнага зняволенага на робе нашыта некалькі бірак — адна з «візітнай карткай», дзе ёсць уся інфа пра чалавека, нават фота. Пазнака пра членства ў нейкай секцыі вісіць на плячы. Цікава, што я атрымаў заўвагу за дрэнную бірку на грудзях (ці то нізка вісела, ці то высока) і толькі праз пару дзён сам заўважыў, што мая бірка на плячы была прышыта наогул на другой руцэ!

102 Тым, хто ходзіць на промку, трэба мець два касцюмы: рабочы і парадны. Адзенне, выробленае ў мясцовым швейным цэху, ужо пасля першага прання з чорнага становіцца шэрым — яго я зрабіў рабочым, пакінуўшы мамчын касцюм для жыцця. У секцыі і лакалцы зняволены можа хадзіць у чым хоча, але на ўсе пастраенні, паходы да начальства, у сталоўку і наогул падчас любых перамяшчэнняў па зоне арыштант павінен быць апрануты як для параду.

103 І майка, і кетчуп, і стрыжні аказаліся забароненымі. У кожнай забароны было нейкае тлумачэнне, але памятаю толькі пра стрыжні — можна было толькі пэўнага віду, бо астатнія можна было выкарыстоўваць для татуіровак.

104 ПГД — парка-гаспадарчы дзень — нешта накшталт генеральнай уборкі. Падчас яго выносілі матрацы на вуліцу, мылі і прыбіралі кубрыкі, лесвіцы і да т. п.

105 Прычына майго пераводу ў іншую брыгаду для мяне засталася невядомая. Хутчэй за ўсё, атрадніку не спадабалася, што хоць я і скардзіўся на цяжкую фізічную працу, але даволі камфортна адчуваў сябе ў гэтай брыгадзе. На самай справе пра моцную

стомленасць у лістах я пісаў, хутчэй, для рэжымнага аддзела. Працавалі мы ад сілы адну гадзіну. Брыгадзір адразу вызначаў: усім прынесці па 10 бярвёнаў. Увесь астатні час мы праводзілі ў капцёрцы: чыталі, пілі гарбату, спалі. Думаю, што не апошнім аргументам былі даволі добрыя адносіны з брыгадзірам — «Патрулём». А начальству хацелася, каб я не расслабляўся. Хоць у рэальнасці можа быць з дакладнасцю наадварот — начальнік пабаяўся, што я са сваім хворым сэрцам адкіну канькі проста на працы. Калі б справа тычылася звычайнага зняволенага, то на гэта маглі б і плюнуць. Падчас аднаго з візітаў да мяне маёраў я пачуў, што ім прасцей спісаць мёртвага зняволенага, чым мёртвага вартавога сабаку. Тады ж я пачуў яшчэ адну фразу: калі раптам што, «хуткая» прыедзе хутчэй, чым у горадзе, і што ў іх значна часцей людзі канчаюць жыццё самагубствам (зняволеныя, схільныя да суіцыду або ўцёкаў, — адмысловая катэгорыя, якая, знаходзячыся разам з усімі, кантралюецца дадатковымі праверкамі), чым паміраюць ад хвароб. Ясна, што ў выпадку праблем са мной справу не атрымалася б спусціць на тармазах. А можа, і сам брыгадзір быў незадаволены, што маё з’яўленне ў яго брыгадзе парушыла іх прывычны рытм жыцця — пачалі прыходзіць нейкія праверкі, гутаркі з атраднікам і да т. п. Калі ж справа была ў тым, што, як камусьці здалося, у новай брыгадзе брыгадзір Максім на мяне будзе аказваць максімальны ціск, то яны не памыліліся. І ў першую чаргу нават не фізічная стомленасць, а зносіны з гэтай істотай кожны дзень падрывала мне псіхіку. Напрыклад, магу згадаць адзіны выпадак, калі на промцы ён адмыслова штурхнуў мяне на зняволенага з нізкім статусам — і я толькі цудам вывернуўся ад сутыкнення, якое магло пацяг-

нуць для мяне непрадказальныя ўскладненні. Усё гэта суправаджалася яго дэбільным смехам — для яго гэта была забаўка. Не ведаю, рабіў гэта ён па ўласнай ініцыятыве або выконваў чыюсьці просьбу стварыць мне невыносныя ўмовы. Натуральна, што ў брыгадзіры прызначалі толькі тых, хто зможа прымусіць вельмі складаны кантынгент выконваць вытворчы план. І на гэтую пасаду былы сутэнёр (па старых паняццях, як мне казалі, не самы паважаны сярод крымінальнікаў артыкул), фізічна моцны, не абцяжараны адукацыяй ці культурай, гатовы з любой нагоды не задумваючыся прымяніць сілу, падыходзіў ідэальна.

106 Многія зняволеныя скардзяцца на праблемы са страваваннем — выкліканыя яны і недастаткова разнастайным харчаваннем, і адсутнасцю вітамінаў, і тым, што гэтае харчаванне — самыя танныя прадукты. Напрыклад, чуў пра нейкі неверагодна танны і шкодны для арганізма тлушч і пра кансервы, прызначаныя для кармлення пушных звяроў. Ёсць у стрававання ў зоне, кажучы вобразна, і яшчэ адзін непрыемны бок — гэта паход у прыбіральню. У нашым атрадзе на 100 чалавек было ўсяго 5 «талчкоў» (г. зн. гэта былі не ўнітазы, а проста дзіркі ў падлозе) — адзін з якіх быў адведзены для касяка. Мала таго, што тут пастаянна была чарга, дык яшчэ гэтыя пасадачныя месцы, размешчаныя тварам да агульнага ўвахода ў санвузел, дзе размяшчаліся і рукамыйнікі, не мелі дзвярэй (!) — прыходзілася спраўляць натуральныя патрэбы фактычна на вачах іншых арыштантаў, седзячы на «подыуме». Усё ж такі да падобнага нельга прывыкнуць адразу, таму я стараўся наведваць гэтае месца, калі тут было па магчымасці менш людзей. Акрамя таго, асуджанаму нельга дакранацца ні да

чаго ў прыбіральні — асабліва змываць або падымаць прадметы, якія падалі на падлогу. А паколькі змывам займаўся зняволены з нізкім статусам, які не мог стаяць тут дзень і ноч, то можна ўявіць, у што часам ператваралася гэтае месца. Наогул для зняволеных мача — адна з «патаемных» вадкасцяў, выпадкова дакрануўшыся да якой можна страціць свой статус. Для нармальнага чалавека большасць падобных правілаў успрымаюцца як правілы папуасаў-людаедаў.

**107** З брыгадзірам Максімам мяне пасадзілі за адзін стол у сталовай. Таксама слаба верыцца ў такую выпадковасць.

**108** Начальнік прапанаваў мне кампраміс: зараз я здам ім аналіз (маўляў, яны могуць яго ўзяць і без маёй згоды), а я потым у лістах напішу, што мяне тут прасуюць. Адзіным сэнсам яго фразы я ўбачыў яго жаданне, каб я як мага больш пісаў пра тое, што мне тут вельмі дрэнна, што на мяне ціснуць. Мяркуючы па ўсім, менавіта такі загад яны атрымалі — і гэта ўкладвалася ў адзін шэраг з маім незразумелым пераводам у іншую брыгаду.

**109** У нейкі момант многія звёны склаліся ў адзін ланцужок: перавод у іншую брыгаду, просьба начальніка, каб я пісаў у лістах, што мяне прасуюць, потым гэтае пытанне, ці прасуюць мяне, і да т. п. Падобна на тое, што ўжо тыдзень таму да іх прыйшло нейкае распараджэнне — падрыхтаваць мяне да падобнай гутаркі, каб быў больш падатлівым. Чалавек у цывільным прафесійна разгаварыў мяне, пачаўшы здалёку, а ў патрэбны момант лагодна спытаў, ці хачу я дапамагчы маёй маме. Вядома, з маіх лістоў яны выдатна ведалі сітуацыю ў маёй сям'і. Я спытаў: «А што для гэтага трэба зрабіць?» — «Трэба купіць латарэйны білет». — «І што менавіта?» —

«Трэба напісаць на памілаванне...» — «Але ж я не прызнаю сваю віну». — «Можна папрацаваць над фармулёўкай...» Потым мне далі нейкі ўзор, з якога я перапісаў усё, што палічыў патрэбным, больш напісаўшы пра сваю навуковую працу і іншае. Цяпер ясна, што ўсяго гэтага можна было і не пісаць. Усё ўжо было вырашана. Як пасля аказалася, я мог бы не пісаць наогул і выйсці незламаным героем, але ў мяне ўжо не было сіл. Тым больш, што ад мяне і не патрабавалі ніякіх пакаянняў і адрачэнняў. З іншага боку, у мяне ніколі не было ілюзій адносна гэтых турэмшчыкаў, і я ведаў ужо на прыкладах і маёй адмовы ад працы, і адмовы здаць аналіз ДНК — яны ўсё роўна не адступяць і будуць ціснуць. Ведаю, што аднаму, хто адмовіўся ад напісання на памілаванне, проста сказалі, што ён заедзе да пеўняў. І чамусьці ў мяне няма сумненняў, што так бы і было. Ведаю, што і Андрэй Пратасеня адразу адмовіўся ад прашэння і быў пераведзены з аднаго — «элітнага» — атрада ў другі — звычайны. Тады я ўбачыў яго на промцы. Атмасфера ў атрадзе моцна адрознівалася ад даволі камфортнай камеры № 18 або каранціну. Я адчуваў, як, незразумела адкуль, узнікалі канфлікты з многімі людзьмі, як нарастала агрэсіўнасць брыгадзіра, заўхоза і яго актыву. І нават месяц у такой атмасферы быў бы даволі цяжкім выпрабаваннем, а ўжо калі пачалі рэальна прасаваць, то такі слабак, як я, дакладна б не вытрымаў. Мае сілы скончыліся — Міклуха-Маклай, каб не быць з'едзеным, павінен быў своечасова пакінуць выспы з дзікімі плямёнамі.

110 Падобна на тое, што з самага верху паступіла даручэнне: памілаванне любой цаной. Таму ўсё рабілася, як атрымлівалася: з парушэннем дзясятка законаў і дробных інструкцый. Сам парадак, сама

логіка прашэння была парушаная — яны самі прыехалі да мяне. Як я зразумеў, маю заяву ўжо павезлі на высокі подпіс — хоць яшчэ не было зроблена некалькіх першых крокаў: не было нават маёй заявы начальніку калоніі, не была скліканая камісія, не было яе рашэння, што я выправіўся, ды і віну сваю я не прызнаваў .

111 У калоніі было дзіўнае правіла, што я мог для званкоў дадому карыстацца толькі карткай, набытай у самой зоне. А паколькі я яшчэ ні разу не хадзіў на атаварку, то і тэлефанаваць мне не было чым. У сувязі з распачатым рамонтам да мяне звярнуўся адзін з актыву і сказаў, што трэба столькі і столькі пачкаў цыгарэт. Я пагадзіўся, але пры ўмове, што ён арганізуе мне званок дадому. Падобна на тое, калі б гаворка ішла пра кагосьці іншага, то ўсё б атрымалася. Але наш атраднік, асцерагаючыся магчымых праблем пасля майго званка, не даў мне патэлефанаваць па чужой картцы. Пасля гэтага я палічыў, раз актывіст не выканаў сваё абяцанне, то і я вольны ад свайго. Але дзе там! Гэта і стала прычынай канфлікту з усім актывам атрада.

112 Гумен Гушанг Гарбаніджад яшчэ раз даказаў, які цесны наш свет, — ён быў хірургам у нашай паліклініцы, знаёмым з многімі маімі суседзямі. Сам Гумен прыехаў з Ірана, вучыўся ў мядінстытуце, быў вельмі добрым хірургам — і раптам папаўся за хабар. Было некалькі дробных эпізодаў, ледзь не на ўзроўні шакаладкі, за што ён атрымаў тры гады. І выдатны хірург вымушаны быў збіваць скрыні — ва ўсіх лагерных шпіталях Беларусі для яго не знайшлося месца. Па сутнасці, Гумен і стаў ва ўсім атрадзе адным з нямногіх, з кім можна было пагаварыць.

113 Выходзіла, што я адправіў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі 5 жніўня.

114 У зоне афіцыйна не ходзяць ніякія грашовыя знакі — іх замяняюць пачкі цыгарэт. Ва ўсяго ёсць цана ў цыгарэтах. Памыць падлогу, падзяжурыць, купіць гарнітур са швейнага цэху і да т. п. Як і ў рэальным грашовым абарачэнні, купюры маюць розную велічыню. Самыя танныя цыгарэты — гэта «палавінкі», потым «адзінкі» і да т. п. Ужо не памятаю, што за крутыя цыгарэты я аддаў заўхозу, але пацягнулі яны аж на «чацвёрачку».

115 У мяне з дзяцінства прыступы мігрэні, калі нечакана я губляю на паўгадзіны-гадзіну зрок — у вачах з'яўляюцца «маланкі», нібы паглядзеў на спіраль лямпачкі, пакідаючы толькі невялікія ўчасткі, дзе я нешта бачу. З-за гэтай хваробы мяне нават не ўзялі ў войска. Звычайна гэта бывала некалькі разоў у месяц. Выкліканы прыступы ў асноўным недасыпам, дрэнным харчаваннем або стрэсам. Натуральна, што на зоне хвароба абвастрылася, бывалі дні, калі прыступы здараліся па два разы на дзень, — і пры гэтым я, вядома, не мог пакінуць працу і, амаль сляпы, працаваў на дрэваапрацоўчым станку.

116 Для вызвалення трэба запоўніць стандартны абыходны ліст, каб, не дай бог, не вынес нешта з лагера.

## Слоўнічак

*Не стаўлю задачу стварыць яшчэ адзін слоўнік турэмнай мовы, тут толькі словы, якія сустракаюцца ў тэксце (так, як словы ўспрымаліся на слых; магчымы некаторыя варыяцыі напісання):*

**Баландёр / баландзёр** — асуджаны, па нейкіх прычынах пакінуты пасля прысуду працаваць у СІЗА, выконваць розныя работы, у тым ліку па раздачы ежы.

**Броня / браня** — бетонная сцяна, адгароджваецца санвузел.

**Вата / вата** — матрац.

**Весло / вясло** — лыжка.

**Дорога / дарога** — спосаб сувязі паміж камерамі.

**Зэчка / зэчка** — кубак.

**Зэчки / зэчкі** — лагерныя чаравікі.

**Кабан / кабан** — перадача.

**Касатка / касатка** — касацыйная скарга.

**Килешевать / кілешаваць** — змешваць, пераліваць (напрыклад, пераліваць чыфір з кубка ў кубак, каб астудзіць), мяняць месцамі (напрыклад, пераводзіць арыштанта з камеры ў камеру).

**Кешар / кешар** — сумкі.

**Козёл / казёл** — зняволены, які супрацоўнічае з адміністрацыяй.

**Конь / конь** — 1. зняволены, які за ўзнагароджанне выконвае працу за іншых; 2. доўгая вяроўка для сувязі паміж камерамі.

**Кормушка / кармушка** — адкідное акенца ў дзвярах.

**Косяк / касяк** — асуджаны з нізкім статусам.

**Кубрик / кубрык** — секцыя, пакой для пражывання ў лагеры.

**Локалка / лакалка** — абмежаваны (лакальны) участак у лагеры, як правіла, прызначаны для аднаго або некалькіх атрадаў, адкуль можна выйсці і куды можна трапіць толькі праз ахоўныя вароты.

**Малява / малява** — ліст, запіска.

**Метла / мятла** — язык. Выкарыстоўваецца ў словазлучэннях: «сачы за мятлой», «пацягнуць за мятлу» і да т. п.

**Мойка / мойка** — рэжучая прылада, вырабленая са станка для галення.

**Мужик / мужык** — самы распаўсюджаны лагерны статус: зняволены, які не належаў да блатнога свету.

**Назначёнка** — пастанова аб прызначэнні судовага паседжання.

**Обезьянник / абязьяннік** — камера ў аддзяленні міліцыі.

**Осуждёнка / асуджанка** — камера для ўжо асуджаных, якія чакаюць зацвярджэння прысуду і этапу на зону.

**Отоварка / атаварка** — турэмная або лагерная крама.

**Отсаженный на кружку / адсаджаны на кружку** — зняволены з нізкім статусам.

**Отстойник / адстойнік** — невялікая камера для часовага размяшчэння зняволеных.

**Пальма / пальма** — нары на трэцім узроўні.

**Первоход / першаход** — упершыню асуджаны.

**Продлёнка / прадлёнка** — пастанова аб прадаўжэнні часу ўтрымання пад вартай.

**Резка / рэзка** — рэжучая прылада — або металічная, або нітка для наразання хлеба.

**Рeснічкі / раснічкі** — гарызантальнае металічнае жалюзі на акне турмы, якое не дазваляе глядзець з яго прама, а толькі ўніз.

**Решка / рэшка** — краты.

**Стакан / стакан** — вельмі маленькая камера для часовага размяшчэння зняволенага.

**Терпила / цярпіла** — пацярпелы.

**Хата / хата** — камера.

**«Химия» / «хімія»** — від пакарання ў выглядзе абмежавання волі, а таксама адмысловае месца, куды накіроўваюць «хімікаў».

**Чифир / чыфір** — моцна вараны чай.

**Шконарь, шконка / шканар, шконка** — нары.

**Шлёмка / шлёмка** — металічная талерка.

**Шлёпало / шлёпала** — чалавек, які не адказвае за свае словы ці не выконвае свае абяцанні, не годны даверу.

**Шмон, шмонать / шмон, шманаць** —ператрус, абшукваць.

## Последнее слово[1]

Высокий суд, участники процесса, друзья! Когда ты находишься в этой клетке и тебе предоставляется последнее слово, то невольно воспринимаешь слово «последнее» буквально, потому что понимаешь, зная то место, куда ты отправишься, что, возможно, тебе больше не будет предоставлена возможность как-то высказаться, прояснить свою позицию... Всю мою жизнь, 40 лет, я не готовился к тюрьме. Я не вёл такой образ жизни, я обходил стороной какие-то блатные компании, для меня это совершенно несвойственно. Но, в общем-то, судя по всему, ближайшие 3–4 года мне не придётся выбирать общество для общения, поэтому хочется сказать многое, и надеюсь, что я не покажусь слишком многословным.

Для меня, как историка, то, что я сейчас наблюдаю, и та ситуация, в которой я сейчас оказался, просто, можно сказать, подарок судьбы. В том плане, что словно на какой-то машине времени мы все перенеслись в 38-й год. ***И мы не читаем в книгах, не читаем в газетах об этом, а вот я сейчас стою реально в клетке за то, что я люблю Беларусь, за то, что верю в будущее Беларуси.***

[1] Последнее слово записано с аудиозаписи, сделанной журналистами радио «Свабода», – жирным курсивом выделены строки, «волшебным образом» не попавшие в протокол судебного заседания.

Конечно, когда (я всё-таки человек взрослый), когда ты понимаешь, кто пришёл к власти в стране, когда этот человек говорит, когда с восторгом отзывается о порядке, ***который был при Гитлере, или восторженно говорит о порядке, который был при Сталине,*** можно сразу понимать, что тебя ждёт. Надо сразу брать вещи и уезжать из этой страны, потому что рано или поздно ты окажешься или среди жертв, или среди палачей. То, что мы видим в нашей стране, может быть, действительно, я слишком близко к сердцу воспринимаю. Опыт моей семьи показывает, действительно, что как только к власти приходят такие люди, надо уезжать. Во время сталинских репрессий была уничтожена моя семья…

Судья А. Булаш перебивает:

— Дмитрий Михайлович, я вас перебью. Вам предоставляется последнее слово в рамках того уголовного дела, которое является предметом судебного разбирательства.

— Я говорю по мотиву.

— Так вы то, что говорите, связывайте с тем обвинением, которое вам предъявлено. Это прямо указано в Уголовно-процессуальном кодексе Республики Беларусь. Продолжайте.

— Всё-таки хочу повторить, что во время сталинских репрессий была уничтожена моя семья, мои предки. Они были обыкновенными крестьянами, жили они на той земле, которая сейчас называется Дрозды — резиденция президента. Вся эта земля принадлежала им. И вся их вина была в том, что они действительно умели работать… Так получилось, что могилы их неизвестны, где-то в Архангельском крае все они сгинули. И вот поэтому я не могу относиться к тому, что происходит в нашей стране, как-то отвлечённо.

Да, у меня был шанс. Я семь лет жил в России. У меня было всё, практически: у меня была хорошая ра-

бота, я получал деньги, которых здесь до сих пор даже в планах на 2015 год не пишут, у меня была любимая девушка, у меня была квартира в центре Москвы… Но всегда хотел сделать что-то большее в этой жизни… И вот я действительно совершил большую ошибку, что вернулся сюда. Потому что я хотел работать для Беларуси, хотел реализоваться как учёный.

И вот всего лишь три месяца как я «в политике». До этих пор я никогда не интересовался политикой, для меня всё это было… На выборы 2001 года я не ходил, моя мама проголосовала с моим паспортом за Лукашенко. Ну вот, наверно, и за это приходится мне отвечать.

На выборах 2006 года, как я уже сказал, сам Александр Григорьевич признал, что он выборы сфальсифицировал… ***Факт есть факт: выборы 2006 года были сфальсифицированы. Про выборы 2010 года он сам сказал недавно. Обращаясь к народу с посланием,*** он сказал: «А спросите у своих знакомых кандидатов в президенты, сколько из них собрало сто тысяч подписей?» ***Т. е. он говорит, сам, открыто, что среди кандидатов в президенты были зарегистрированы люди, которые не собрали сто тысяч подписей. Т. е., условно говоря, мы поступаем в институт, сдаём экзамены вступительные на двойки, и нас… принимают. Как это произошло? Почему это произошло?*** Т. е. речь идёт не о каких-то нарушениях на каком-то отдельном участке, ***где там какой-то председатель избирательной комиссии написал пару цифр.*** Это речь о нарушениях, которые влияют полностью на всю избирательную кампанию. Поэтому я считаю, что у нас у всех, у всех, кто вышел на Площадь, у нас был действительно серьёзный повод.

***Я не говорю о каких-то мелких нарушениях, которых там сотни и тысячи, которые есть в отчётах ОБСЕ, Хельсинкского комитета и других наблюдате-***

***лей.*** Т. е. я хочу сказать, что действительно у нас был повод выйти на Площадь. Никто не планировал никаких экстремистских действий, если б мы шли на Площадь… Я б не брал с собой мегафон, а брал бы ***штык-нож, что-то другое, чтоб избивать людей. Это абсурдное обвинение. Т. е. я бы признал свою вину…*** Мне ***следователь на стадии следствия сразу*** сказал: ***не признаешь себя виновным — три с половиной года,*** признаешь — три. ***Вот и всё. Я бы признал себя виновным, если б это обвинение хоть как-то соответствовало тому, что я сделал.*** Но только 99% всего обвинения не имеет никакого отношения ко мне. Оно просто фантастическое какое-то. ***Вот эти приготовления к поджогам, погромам, насилию над личностью...***

Я не вижу ни одного пункта, который бы я нарушил. По видеозаписи отлично видно, что я подошёл к двери, ***не когда там начали бить первые люди, не когда там эта толпа штурмовала, я подошёл туда последним,*** когда уже спецназовцы высаживались. Т. е. я уже не мог ни проникнуть внутрь, в Дом Правительства, я не мог разрушить ни его, ни ту доску, при всём моём желании, потому что спецназовцы уже бежали. На видео видно, что я нанёс эти три удара, и меня сразу же смыло этой спецназовской волной. Своё наказание я получил «не отходя от кассы», на месте. Мне нанесено было несколько ударов. Я не оспариваю, я действительно совершал какие-то действия, но я сразу получил по голове, по спине. Потом я отбыл 10 суток административного ареста в Жодино, сейчас я уже четвёртый месяц сижу в СИЗО.

За это время мы писали жалобы, чтоб я мог выйти, завершить какие-то свои дела, закончить книгу, которую начал писать, в издательство отнести. Меня считают каким-то злостным преступником, который сейчас всё бросит и убежит куда-то. У меня уже была возможность

жить за границей, я уже там пожил. Я хочу жить в Беларуси, я хочу работать на Беларусь. Прошу суд, чтоб мне предоставлена была такая возможность. Я не экстремист, не преступник, я человек, который действительно любит эту страну.

И я считаю, что наши действия, которые мы совершили, были совершены в обстановке крайней необходимости. У нас не было другой возможности как-то привлечь внимание к этой ситуации, которая сложилась в нашей стране. Это крайняя необходимость, и путём выхода на Площадь мы хотели предотвратить гораздо большее преступление, которое, естественно, не является предметом исследования в данном суде, но оно очевидно.

Оно очевидно всему миру, оно очевидно Европе, США. Только у нас в стране действительно никто ничего не видит, все называют белое чёрным, чёрное — белым, все довольны… Включаешь белорусское телевиденье, на самом деле не случайно его начали называть «Геббельс-ТВ» — такой поток грязи, такой поток лжи… Если у человека есть хоть какое-то понятие о культуре, образование, какие-то ценности, то нельзя то, что происходит в нашей стране, воспринимать как нормальную ситуацию.

Конечно, я получил хороший урок. Четыре месяца я нахожусь в очень тяжёлых условиях СИЗО. Неслучайно в советские времена год в СИЗО считался за два на зоне. Камера переполнена, 24 человека спят по очереди. 24 человека! Я человек некурящий, я нахожусь в этой газовой камере. Четыре месяца я не могу дышать нормально. И день и ночь горит свет. Я лишён сна, лишён возможности дышать. Неужели для государства этого недостаточно и нужно ещё меня наказать? Сейчас у нас в камере обнаружили туберкулёзного больного, нас всех поставили на карантин. Мы все находимся в страхе, что

оттуда кучу болезней привезём. Ну что ещё нужно сделать для Родины? Неужели так нужна моя кровь за эти три удара? Я, конечно, с уважением отношусь к господину обвинителю, но за три удара по доске три года — это, конечно, перебор. Я думаю, что всем здесь всё понятно и все делают вид, все молчат.

У меня не было никакого желания проникать туда. Я повторюсь, что в тот момент уже всё было ясно. Т. е. выгружался спецназ. То, как спецназ выгрузился…

Как говорят потерпевшие: рассекли толпу, оттеснили толпу… Красиво. А как происходит рассечение толпы? Это значит, они клином бегут и налево и направо раздают дубинками… Кто там попался, их абсолютно не волнует. Они не могут останавливаться, потому что, если один останавливается, на него набегают те, кто бежит за ним, они там сами падают. Как неоднократно они сами говорили: поскользнулся, упал, на него упали. Т. е. попадаются под дубинки все. И поэтому мирный митинг, но в каких-то местах, я абсолютно уверен, возникло сопротивление…

Попытка прорыва… Да никому этот прорыв не надо был. Не было никакого плана штурмовать Дом Правительства. Если б был какой-то приказ, если б люди решили штурмовать — кругом окна, кругом плитка, там не надо было этих ломов приносить. Расковыряли бы моментом эту мостовую, забросали бы этих, сколько их там было, сто омоновцев. Ну, сто человек сдерживало стотысячную толпу или десятитысячную толпу. Это абсурдно.

Люди были действительно настроены мирно, пока их не начали бить дубинками. Не случайно при всём отличном, хорошем настроении людей на площади, когда появился спецназ, стали скандировать: «Фашисты». Потому что нельзя так. Люди выбежали — слева, справа —

все в крови. Лежачий — упал человек — один пробежал, ударил, второй пробежал, ударил. Человек уже лежит, не подаёт никаких признаков, и всё равно каждый должен его ударить.

Это есть на видео. Я понимаю почему, наверно, господин обвинитель не хочет смотреть это видео. Т. е., конечно это происходило, и у каких-то людей было желание защититься. Агрессия всегда вызывает ответную агрессию. Здесь работники милиции говорят: оттеснили. Что значит «оттеснили»? Это они идут и щитами двигают толпу и бьют дубинками. Кому попало — всё равно. Т. е. вы должны отодвинуться.

Поэтому каждый должен отвечать за то, что сделал. Я не отрицаю свой поступок, его нельзя назвать правовым, но, извините меня, оценить этот поступок в три с половиной года… Я ничего не нарушил, я ничего не поджёг, к этой статье это не имеет никакого отношения. Просто иногда, действительно, когда тебя переполняет, надо подойти и просто по чему-то стукнуть. Т. е. в тот момент, когда я подошёл, было абсолютно ясно, что это уже всё.

Я не знаю, если есть возможность, я прошу высокий суд дать мне, может быть, восемь лет, пускай, может быть, десять, пятнадцать, но именно ограничения свободы, чтоб я мог работать, продолжать свои творческие планы, которых очень много, а жизнь человека не бесконечна. А нам дают сроки, как будто человек вечен, как будто три года ничего не значат. Простите за немножко эмоциональное выступление, но, на самом деле, да, есть преступление какое-то, но должно ж как-то соизмеряться с ним наказание. Если нет этого соизмерения, то человек чувствует, что он наказан несправедливо. А если нет веры в справедливость, человек просто теряет веру во всё.

Я считаю, что я уже достаточно наказан. Ещё в СИЗО я упал, у меня перелом носа, сотрясение мозга, но там

никого это, конечно, не волнует. Сделали снимок — перелом, но главное, чтоб не было никаких претензий. То есть я уже действительно своей кровью заплатил за эти три удара.

Я не знаю, почему обвинение такое кровожадное. Наша страна такая богатая, такая сильная, самая лучшая в мире… И вдруг за 12 миллионов нам надо 50 человек посадить, каждому дать от трёх до пяти! 250 лет жизни надо потратить, чтоб искупить вину за эти четыре ёлочки и четыре окна.

*05.05.2015*



РЕБЯТА!!! СПАСИБО
ВАМ ВСЕМ ЗА
ПОДДЕРЖКУ!

Я ГОРЖУСЬ ТЕМ, ЧТО МНЕ
ВЫПАЛА ТАКАЯ ЧЕСТЬ —
БЫТЬ СРЕДИ ЛУЧШИХ ЛЮДЕЙ
БЕЛАРУСИ!
РАЗАМ МЫ ПЕРАМОЖАМ!!!
ДЕРЖИТЕСЬ!

## Письмо маме

Ребенком я был достаточно диким — не любил телячьи нежности: обнимания, поцелуи, ласковые слова, считая обязательным демонстративно вытереть щёки после всех этих лобызаний. С возрастом и эти проявления ласки были сведены к нулю. Разве что перед долгим расставанием, например перед моей поездкоё дикарём в Африку или гастарбайтером в Москву, где я пропадал по полгода, а то и дольше, мы обнимались с тобой, мама, в прихожей. Так было и 19 декабря 2010 года. Я знал, куда я иду. Что к Минску стянуты войска, что в городе водомёты для разгона демонстрации... И это на 10–20-градусном морозе... Знал, что не дрогнет голос у главнокомандующего, приказывая открыть огонь или воду. Я не знал, вернусь ли я домой. Было страшно, и ты не пускала меня. Точнее, зная, что меня не остановить, сделала попытку задержать. Но я ушёл, взяв с собой мегафон — тот самый, что потом будет мелькать на видео и упоминаться в обвинении и приговоре.

Потом были десять суток в Жодино, месяц свободы и ещё одно прощание в прихожей на виду у двух работников милиции, приехавших в семь утра, чтобы вызвать меня как свидетеля. И долгий путь в полгода от СИЗО-1 до ИК-2... Не знаю, сколько слёз ты пролила за это время, сколько раз домашние просыпались от твоего плача,

сколько раз ты сбивала невероятно высокое давление, сколько раз вызывали скорую... Ты не пишешь мне об этом, оберегая от боли, что тебе сейчас очень плохо, очень тяжело, но не случайно в письмах замелькало «лечь на обследование». Знаю, как ты боишься врачей и ляжешь в больницу только в самом крайнем случае. Страх твой вполне обоснован: неверные диагнозы, неудачные операции и ранние смерти преследуют нашу семью. Твоя мать, отец и старший брат умерли в результате медицинских ошибок. Твой муж — мой отец — умер скоропостижно, не дожив пару дней до своего сорокалетия. Тогда мне было 18, теперь почти как ему — 38 лет, и, если верить приговору, своё сорокалетие я встречу на зоне.

После смерти мужа ты так и не вышла второй раз замуж, твоей жизнью были и есть твои дети — я и сестра Наташа, а теперь и внуки Лёша и Илья. Ты всегда говоришь: «Для меня счастье, когда все дома». Знаю, как ты мечтаешь, что я женюсь, как хочешь дождаться внуков. Но теперь я далеко от дома, ещё дальше — от осуществления твоей мечты.

Хоть так часто ты не понимала меня: моих стихов не читала, не разделяла желание окончить вуз, издать книгу, не приветствовала мои траты денег на путешествия и книги вместо ремонта, мебели и одежды. Но ты всегда понимала: это моё решение, моя жизнь. И теперь мне хочется верить, что, когда многое из задуманного мной удалось, ты хоть чуточку гордишься мной и рада, ведь я жил так, как хотел, я был счастлив. И даже теперь, когда я на зоне, получая сотни и тысячи добрых слов из разных стран мира от самых влиятельных людей планеты, надеюсь, ты понимаешь, что мы правы.

Страшно признаться почти в 40 лет, что для меня сейчас единственное ценное — это ты, мама. Что уже в возрасте, когда сам мог стать дедом, как маленький

мальчик, боюсь, что с тобой может что-то случиться. Когда-то давно в детском саду на вопрос воспитательницы, чего бы мы попросили у волшебника, когда все наперебой закричали: «Игрушки, мороженое...», я сказал: «Хочу, чтобы мама никогда не болела и не умирала...»

Сейчас сотни забот легли на тебя. После тяжелейшего для тебя испытания — моего суда и приговора, когда, казалось бы, что хуже уже некуда, жизнь нанесла тебе ещё один удар: на трассе Гродно — Минск был найден мёртвым твой младший брат. Причина смерти не установлена. Потом смерть мужа тёти, и опять похоронные хлопоты... Как ты всё это выносишь? Где, такая маленькая, слабая, берёшь силы? Знаю, как часто из-за болезни ты не можешь дойти до нашего магазина и возвращаешься с полпути, почти теряя сознание. Знаю, что куда б ты ни шла, у тебя всегда с собой лекарства. Знаю, каким подвигом было для тебя приехать ко мне на суд, чтоб увидеть меня в наручниках и в клетке, а потом, так боящейся замкнутых пространств, приехать на свидание со мной на Володарку. Знаю, что сейчас, когда рухнуло «экономическое чудо», ты, пенсионерка, пошла на работу, чтоб выжить и помогать мне. Благодаря тебе я сегодня пил чай с конфетами. Знаю, что вряд ли ешь их сама, отказываясь от вкусненького в пользу детей и внуков. Твоя способность к самопожертвованию ради близких, любимых безгранична, твоё умение создать для них уют, материальный (никто так вкусно не готовит, как ты!) и психологический, невероятна! У тебя нет врагов, тебя очень сложно разозлить, ты всегда выслушаешь и дашь совет. И я знаю, что, преследуя свои цели, я смог и смогу в жизни очень многое, но не смогу любить так, как умеешь ты — просто, ежесекундно, как дышишь. И эта любовь к нам, детям, внукам, и есть твоя жизнь. И никто и никогда не сможет любить меня — такого сложного — так, как ты. Пока есть ты, я не одинок. И даже здесь, на

зоне, однажды в окне я увидел тебя. Это была даже не секунда — мгновение. Плохое зрение, игра света и тени, блик на стекле... Я не знаю, что это было, но я увидел и узнал тебя. Точно так, возвращаясь поздно вечером, я видел свет в окне на кухне и знал, что ты ждёшь меня, чтоб я не лёг спать голодным. А что я могу сделать для того, чтобы ты была счастлива, чтобы хоть на минуту ты засияла от радости и мы радостно обнялись уже не перед разлукой? Может быть, мои слова придадут тебе немного силы и ты, как бы ни был долог мой срок, дождёшься меня. И мы все будем дома, и ты, моя матулька, будешь счастлива и спокойна.




**У серыі**
**«Беларуская турэмная літаратура»**
**выйшлі кнігі:**

1. Зміцер Дрозд. **Бунт батанікаў.** Дзённік. 2017

